ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 73(5255)
Субота, 30 чэрвеня 2001 года

Кошт у розніцу — 51 руб.

# 3 ліпеня — Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь

Сустрэча воінаў-пераможцаў.

Фота У.ЛУПЕЙКІ.

Пятрусь БРОЎКА



## Пісьмо землякам

Я ведаю —
высахнуць слёзы,
Прагоніць чужынцаў
народ:
У гневе бары над
Бярозай,
І помстаю грукае лёд.

Вы з помстаю выйшлі —
вас многа.
З-пад пушчаў,
з-пад хмурых лясоў.
Мы знаем: для нас —
перамога,
А гібель —
для вырадкаў-псоў.

Дык біце з гаёў і палянаў,
Расплаты наблізіўся час.

Мы з вамі,
браты-партызаны!
Страчайце,
ідзём мы да вас!

Мы з вамі
па зброі адзіны
І разам выходзім на бой,
У родную нашу хаціну
Збяромся адною сям'ёй.

Бандытаў загінуць
прымусім,
Прыйшла
ім няслаўная смерць.
І будуць сады Беларусі
Ізноўку на волі квітнець.

## Душа спявае! А значыць — не старэе

— Лёва ідзе! — падае аднакласнікам сігнал самы жвавы, калі настаўнік фізкультуры Леў Сямёнавіч Шэйнкман яшчэ толькі паяўляецца ў канцы калідора. У спартыўнай зале імгненна ўсталёўваецца ўзорны парадак, быццам і не бушавала тут толькі што хлапечая вольніца.

З 1969 года працуе гэты настаўнік у мінскай школе № 63. З той пары, як даў кантрольны ўрок, калі быў студэнтам-завочнікам інстытута фізкультуры. Яму тады адразу сказалі: прыходзь! Ён прыйшоў — і застаўся. На дзесяцігоддзі. А ўвогуле педагагічны стаж Льва Сямёнавіча — сорак чатыры гады. Ведаючы спецыфіку настаўніцкай працы, такое нават уявіць цяжка.

Таму калі знаёмая настаўніца расказала пра свайго калегу, я адразу рушыла ў 63-ю школу знаёміцца. Інфармацыя аб тым, што ў Вялікую Айчынную цяперашні фізрук быў сынам палка і ўсё жыццё не расстаецца з песняй, яшчэ больш падагравала цікаўнасць да будучай сустрэчы. Што за сакрэт ведае гэты Леў Сямёнавіч, калі да гэтага часу лёгка спраўляецца са сваёй віхрастай гвардыяй?

Адзін з яго педагагічных сакрэтаў я выведала даволі хутка, ды мой суразмоўца яго і не ўтойваў:

— Я і сёння раблю ўсё тое, што патрэбна вучню адзінаццатага класа. А прынцып "Рабі, як я" заўсёды спрацоўвае лепш за любыя навучанні.

Уласна кажучы, усё жыццё Льва Сямёнавіча — той самы асабісты прыклад, які так прыцягвае яго выхаванцаў. І хаця сам Шэйнкман скептычна ўсміхаецца: маўляў, для сённяшніх падлеткаў, у тым ліку і для яго ўнука, тыя ваенныя падзеі — такая ж далёкая казка-быль, як для нас усіх бітвы з Напалеонам ці Кулікоўская бітва, думаю, хлапчукам неабыякава, які быў настаўнік у іх узросце.

* * *

Углядаюся ў фотаздымак трынаццацігадовага байца на стэндзе школьнага музея.

— А сапраўды, Леў Сямёнавіч, які вы тады былі? Шмат свавольнічалі?

— Не. Я адчуваў сябе салдатам. А вось у самадзейнасці спяваў з задавальненнем. Яшчэ ў Куйбышаве, куды нас паспелі эвакуіраваць з Мінска. У шпіталях выступалі. У кінатэатрах перад сеансамі. За гэта давалі лусту хлеба з павідлам, што было зусім не лішнім, бо ўвесь час хацелася есці.

— А на фронце як апынуліся?

— Тры разы збягаў з дому. Нарэшце ў падмаскоўным Перхушкава прыбіўся да вайсковай часці. Салдаты прытулілі, накармілі, а я ім песні спяваў. Дайшло, канешне, да кампалка — падпалкоўніка Дубкова. Растлумачыў яму, што бацька з першага дня на фронце, а я таксама хачу ваяваць з фашыстамі. Пра подзвігі Зоі, Матросава, іншых маладых герояў я ўжо ведаў, бо гэта быў чэрвень сорак трэцяга. Ну, годзік сабе прыбавіў дзеля саліднасці...

Залічылі Лёву выхаванцам у тэлефонна-тэлеграфную майстэрню 1-га асобнага палка сувязі 1-й паветранай арміі. У разведку ён не хадзіў і ў рукапашных баях не ўдзельнічаў, у чым адразу звычайна і прызнаецца на сустрэчах са школьнікамі. Яго зброяй былі адвёртка, паяльнік, гаечны ключ і ключ тэлеграфны. Вайна аказалася цяжкай штодзённай працай — пра гэта Леў Сямёнавіч і расказвае сваім юным слухачам.

— Хаця, — усміхаецца, — ім, канешне, пра баі ды атакі цікавей.

З настаўнікамі маленькаму салдату пашанцавала — зрабілі з яго і рамонтніка нядрэннага, і радыётэлеграфіста. З удзячнасцю ўспамінае Леў Сямёнавіч начальніка тэлефонна-тэлеграфнай майстэрні Ілью Бахава, інжынера палка Міхаіла Лаўрэнцьева,

(Працяг на 2-й стар.)

28 чэрвеня адбыўся суперфінал Рэспубліканскага конкурсу прафесійнага майстэрства педагогаў "Крыштальны журавель-2001".

Пераможцам стаў настаўнік геаграфіі Ланскай сярэдняй школы Маларыцкага раёна Брэсцкай вобласці Вадзім Паўлавіч ШПЕТНЫ. Яму — нашы віншаванні.

*(Матэрыял пра тое, як праходзіў суперфінал, чытайце ў наступным нумары нашай газеты.)*

## Вахта памяці

З кожным годам на Беларусі ўсё больш становіцца пошукавых атрадаў і патрыятычных аб'яднанняў моладзі. Растуць шэрагі Беларускай рэспубліканскай асацыяцыі "Пошук". На сённяшні дзень 68 розных фарміраванняў уваходзяць у яе структуру.

У сваёй дзейнасці мы імкнёмся ўкараняць новыя формы патрыятычнай работы, якія падабаюцца падлеткам: гэта злёты на базе воінскіх часцей і паходы па родным краі, "Эстафета патрыятычных спраў" і эстафета памяці "Мір — у XXI стагоддзе", стварэнне "Школ патрыятычнага выхавання" і "Школ выжывання", дзейнасць Дзіцяча-маладзёжнага казацкага цэнтра і шмат іншага.

За вялікую працу па патрыятычным выхаванні дзяцей і моладзі Каардынацыйны савет Міжнароднай асацыяцыі грамадскіх пошукавых аб'яднанняў "Народная памяць пра абаронцаў Айчыны" выдзеліў восем месцаў пошукавікам Беларусі для ўдзелу з 19 па 23 чэрвеня ў Маршруце памяці "Там, дзе пачыналася вайна". Права ўдзельнічаць у гэтай акцыі атрымалі прадстаўнікі ваенна-патрыятычнага клуба "РВС" сярэдняй школы № 2 Наваполацка, якія толькі за вясну гэтага года пабудавалі чатыры памятныя знакі на незарэгістраваных воінскіх пахаваннях. Вучні з гонарам пранеслі сцяг Беларускай рэспубліканскай асацыяцыі "Пошук" праз усе мітынгі і шэсці ў гарадах-героях Смаленску, Мінску, Брэсце. У сталіцы нашай рэспублікі пошукаўцы Расіі і Беларусі пабывалі ў авальнай зале, дзе праходзяць пасяджэнні беларускага парламента. На ўсё жыццё застанецца ў іх памяці сустрэча з дэпутатам Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь віцэ-прэзідэнтам БРА "Пошук" М.М.Дубовікам. Па даручэнні Каардынацыйнага савета Садружнасці арганізацый ветэранаў незалежных дзяржаў прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі грамадскіх пошукавых аб'яднанняў Е.А.Іванова ўручыла граматы за вялікую працу па ўшанаванні памяці палеглых пры абароне Айчыны воінаў і героіка-патрыятычным выхаванні моладзі Беларускай рэспубліканскай асацыяцыі "Пошук" і наваполацкаму ваенна-патрыятычнаму клубу "РВС".

Дзякуючы дапамозе Дзяржаўнага камітэта па справах моладзі Рэспублікі Беларусь даследчыцкая група БРА "Пошук" пабывала ў маі 2001 года ў Цэнтральным архіве Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі. Разумеючы важнасць працы пошукаўцаў і падтрымліваючы Саюз Расіі і Беларусі, Камітэт па справах моладзі Падольска ўзяў на сябе выдаткі па размяшчэнні ўдзельнікаў даследчыцкай групы на базе гарадскога аздараўленча-адукацыйнага цэнтра "Мара". Сваёй працай удзельнікі пошукавых атрадаў дапамагаюць стваральнікам кніг "Памяць" і грамадскім музеям, сем'ям загінуўшых і тых, хто прапаў без вестак. А яшчэ гэтая даследчыцкая дзейнасць мае вялікае выхаваўчае значэнне для тых, хто сваімі рукамі піша ў архівах гісторыю нашай краіны.

З 15 чэрвеня па 8 ліпеня БРА "Пошук" сумесна з Рэспубліканскім цэнтрам турызму і краязнаўства для дзяцей і моладзі і Віцебскім абласным аб'яднаннем пазашкольнай работы праводзіць экспедыцыю "Кастры партызанскай дружбы", прысвечаную 60-годдзю ўтварэння першых партызанскіх атрадаў на Беларусі.

У гэты ж час удзельнікі ваенізаванага летніка "Школа патрыятычнага выхавання" на тэрыторыі вучэбнага цэнтра в/ч 52287 праводзяць розныя конкурсы, спаборніцтвы, ваенізаваную эстафету, аперацыю "Разведка" (апытанне мясцовых жыхароў — відавочцаў баёў).

З 27 чэрвеня па 20 ліпеня ў Віцебскай вобласці праводзіцца абласны летнік-злёт пераможцаў першага этапу эстафеты памяці "Мір — у XXI стагоддзе", прысвечаны Дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Удзельнікі злёту правядуць вучэбныя зборы і турыстычныя паходы па мясцінах баявой славы Шаркоўшчынскага, Шумілінскага, Ушацкага і іншых раёнаў Віцебшчыны. Школьнікі прывядуць у парадак мемарыяльныя комплексы, абеліскі і брацкія магілы, акажуць дапамогу ветэранам вайны і сем'ям загінуўшых воінаў, запішуць іх успаміны. А 10 ліпеня дэлегацыі васьмі раёнаў збяруцца на базе вучэбнага цэнтра в/ч 52287, каб у "нялёгкай барацьбе" адстаяць сваю праграму патрыятычных спраў з моладдзю, расказаць аб правядзенні месячніка "Эстафета памяці" ў сваім раёне, выпрацаваць новыя формы і метады дзейнасці.

Сумеснай пастановай упраўлення адукацыі, Камітэта па справах моладзі Віцебскага аблвыканкама, абласной арганізацыі ветэранаў, абласнога гісторыка-патрыятычнага аб'яднання "Пошук" з 20 красавіка на тэрыторыі Віцебскай вобласці аб'яўлена Вахта памяці, прысвечаная Дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь. У пошукавую дзейнасць актыўна ўключыліся не толькі грамадскія арганізацыі, але і вучэбныя і пазашкольныя ўстановы сістэмы адукацыі. Большасць раёнаў вобласці ўжо даслала ў штаб Вахты памяці лісты апытання мясцовага насельніцтва, пашпарты воінскіх пахаванняў, інтэрв'ю з ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны, справаздачы. Сабраны багаты матэрыял па незафіксаваных воінскіх пахаваннях, які пасля абагульнення будзе перададзены Віцебскай пошукавай роце для далейшай работы па ўшанаванні памяці загінуўшых абаронцаў Айчыны.

А ў жніўні бягучага года па запрашэнні Смаленскага цэнтра героіка-патрыятычнага выхавання "Абавязак" зводны атрад БРА "Пошук" з 20 чалавек прыме ўдзел у Міжнароднай вахце памяці на тэрыторыі Цёмкінскага раёна Смаленскай вобласці.

**Ларыса БРУЕВА,**
**прэзідэнт Беларускай рэспубліканскай асацыяцыі "Пошук".**

## Афіцэр пачынаецца з салдацкай кашы

***У адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 194 ад 17 мая 1995 года на базе двух вучылішчаў — Мінскага вышэйшага ваеннага каманднага і Мінскага вышэйшага інжынернага зенітна-ракетнага — была створана Ваенная акадэмія Рэспублікі Беларусь.***

Сёння яна з'яўляецца не толькі галоўнай кузняй афіцэрскіх кадраў, унікальнай і шматпрофільнай ВНУ краіны, але і цэнтрам ваеннай навуковай думкі. На дзесяці яе факультэтах навучаюцца звыш трох тысяч слухачоў і курсантаў па 55 спецыяльнасцях і спецыялізацыях. Акадэмія мае сучасную вучэбную матэрыяльную базу, высокакваліфікаваны прафесарска-выкладчыцкі састаў. На 45 кафедрах працуюць 20 дактароў і 207 кандыдатаў навук, 32 прафесары і 139 дацэнтаў. За час свайго існавання ваенная ВНУ падрыхтавала каля трох тысяч лейтэнантаў, 371 афіцэра з вышэйшай ваеннай адукацыяй. Штогод у войскі накіроўваюцца больш як 600 яе выпускнікоў.

Выступаючы нядаўна ў Вышэйшай акадэміі, міністр абароны Рэспублікі Беларусь генерал-лейтэнант Леанід Мальцаў падкрэсліў:

"З пазіцый сучасных патрабаванняў магу зрабіць выснову, што ў накірунку падрыхтоўкі граматнага афіцэра, высокаадукаванага інжынера, інтэлігентнага чалавека зроблены толькі першыя крокі. Неабходна стварыць такі механізм падрыхтоўкі ваенных кадраў, які б сумяшчаў у сабе лепшыя рысы савецкага і нашага ўласнага вопыту вышэйшай школы, улічваючы не толькі нашы патрабаванні, але і магчымасці".

Завяршэнне рэфармавання Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь не ўяўляецца без удасканалення сістэмы ваеннай адукацыі. Дынаміка сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў у грамадстве і тэндэнцыі змянення ваеннай палітычнай абстаноўкі настойліва патрабуюць павышэння практычнай накіраванасці ў падрыхтоўцы ваенных кадраў. Перад вышэйшай ваеннай школай краіны стаіць задача падрыхтоўкі спецыялістаў з развітым творчым мысленнем і цвёрдымі навыкамі кіравання войскамі пры выкананні імі задач згодна з прызначэннем. Сёння дакладна і пераканаўча ясна, што толькі афіцэрскія кадры змогуць забяспечыць рэальны поспех і якасныя параметры ваеннага будаўніцтва, якое працягваецца ў дзяржаве.

Актуальныя праблемы ўдасканалення практычнай накіраванасці падрыхтоўкі слухачоў і курсантаў з мэтай павышэння іх прафесіяналізму цесна ўвязваюцца з праводзімымі мерапрыемствамі па завяршэнні рэфармавання арміі.

На пытанні начальніка прэс-службы Міністэрства абароны прэс-сакратара міністра абароны Рэспублікі Беларусь палкоўніка Леаніда Прышчэпы адказаў намеснік начальніка Ваеннай акадэміі па вучэбнай і навуковай рабоце палкоўнік Уладзімір Яззпчык.

***— Уладзімір Уладзіміравіч, чым жа прадыктавана неабходнасць змяненняў у вышэйшай ваеннай школе?***

— На самых розных узроўнях сёння ідзе гаворка аб неабходнасці якасных пераўтварэнняў ваеннай арганізацыі нашай дзяржавы. Таму неабходнае ўдасканаленне сістэмы ваеннай адукацыі мы разглядаем як адно са складаемых ваеннага будаўніцтва Узброеных Сіл.

Існуючая сістэма ваеннай адукацыі створана ў адпаведнасці з канцэпцыяй, распрацаванай у 1994-95 гадах. Пры гэтым у аснову навучання былі пакладзены навучальныя планы і праграмы савецкіх навучальных устаноў. Выключэнне склаў толькі каманднa-штабны факультэт, праграма навучання якога ўкаранялася пры актыўным удзеле і падтрымцы Міністра абароны Рэспублікі Беларусь генерал-лейтэнанта Леаніда Мальцава і была рэалізавана ў 1996 годзе. Адбыліся пераўтварэнні і ў падрыхтоўцы лётчыкаў. У навучанні ўсіх астатніх катэгорый спецыялістаў захаваліся традыцыйныя падыходы. Правільнасць выбранага шляху была пацверджана часам.

Але за мінулыя пяць гадоў мы пераканаліся ў неабходнасці ўліку спецыфікі ўмоў навучання і выхавання будучых афіцэраў Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Перш за ўсё гэта датычыць іх тактыка-спецыяльнай, практычнай і маральна-псіхалагічнай падрыхтоўкі. Мы павінны не проста рыхтаваць маладога чалавека ў форме, а афіцэра, які валодае ўсімі якасцямі ваеннага. Таму сёння ў адукацыі, як і ў іншых сферах ваеннай справы, аб'ектыўна сталі неабходнымі далейшыя пераўтварэнні.

***— Вядома, што аснову эфектыўнай дзейнасці ваеннага спецыяліста, яго інтэлектуальнага развіцця складаюць веды. Ці лёгка выпускнікам акадэміі з першых дзён службы ператварыць іх у практыку?***

— Безумоўна, атрыманне ведаў у любой навучальнай установе не з'яўляецца нейкай адцягненай самамэтай. Яны для таго і набываюцца, каб ператварыцца ва ўменні. Спецыфіка ваеннай адукацыі заключаецца ў тым, што тэарэтычныя палажэнні пры падрыхтоўцы афіцэра распрацоўваюцца і выкладаюцца такім чынам, каб яны сталі асновай для вырашэння практычных задач у ходзе службовай дзейнасці.

Асаблівасць цяперашняй службы афіцэра ў войсках характарызуецца тым, што выключаецца магчымасць яго працяглай адаптацыі да ўмоў вайсковага жыцця пасля ВНУ. Сёння мы не маем магчымасці праводзіць дадатковыя зборы, курсы дападрыхтоўкі, як было раней. Пакуль дзейнічае ранейшая сістэма навучання, арыентаваная на адносна працяглы перыяд уводу ў строй выпускніка. Але ўмовы службы і задачы афіцэрскага саставу Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь істотна адрозніваюцца ад тых, якія былі ў Савецкім Саюзе. Таму нельга механічна пакідаць былую сістэму ваеннай адукацыі ў нашых умовах. Жыццё ставіць пытанне такім чынам: малады афіцэр з першых дзён службы павінен адразу актыўна ўключыцца ў навучанне і выхаванне падначаленых і ўпэўнена выконваць свае функцыянальныя абавязкі. А да гэтага нашы выпускнікі бываюць не заўсёды падрыхтаванымі.

***— Не сакрэт, што праблема гатоўнасці выпускнікоў акадэміі да выканання сваіх пярвічных абавязкаў з'яўляецца не толькі надзённай, але і патрабуе практычнага пераасэнсавання. Якія ж асноўныя накірункі вырашэння гэтай праблемы?***

— Асноўным накірункам з'яўляецца ўдасканаленне сфарміраванай у акадэміі сістэмы метадычнай падрыхтоўкі за кошт актывізацыі работы курсантаў: арганізацыі і правядзення значнай часткі практычных, а на выпускным курсе і тэарэтычных заняткаў па спецыяльнай і агульнаваеннай падрыхтоўцы самімі курсантамі. У нас ёсць рэальная магчымасць павелічэння колькасці праводзімых самастойна кожным курсантам заняткаў з 16-20 да 80-100 гадзін за цыкл навучання. Такая пастаноўка пытання наблізіць па характары навучальную работу да службы ў войску. Паступова будзе ажыццяўляцца рэальны пераход ад перадачы ведаў да кіравання пазнавальнай і практычнай дзейнасцю будучага афіцэра. Асноўнай праблемай па рэалізацыі гэтага накірунку з'яўляецца, на наш погляд, перш за ўсё адданасць педагогаў традыцыйнай метадыцы.

Адным з галоўных накірункаў развіцця сучаснай вышэйшай школы, у тым ліку і ваеннай, з'яўляецца інтэграцыя навучання, навукі і ваеннай практыкі. Паляпшэнне якасці навучання павінна ісці за кошт злучэння яго з навукова-даследчай дзейнасцю, з выкарыстаннем вынікаў навуковых распрацовак у курсавым і дыпломным праектаванні. Курсанты і слухачы павінны адчуваць рэальную аддачу ад вынікаў вучобы. Іншымі словамі, неабходна абавязкова прывіваць курсантам навыкі самастойнага творчага асваення форм і метадаў узброенай барацьбы, якія пастаянна мяняюцца, узбраення і ваеннай тэхнікі, умення прымяняць атрыманыя веды для вырашэння нестандартных практычных задач.

Немагчыма таксама дасягнуць нейкіх змен у гэтай важнай справе і без высокай якасці метадычнага забеспячэння ўсіх відаў практычных заняткаў. Для гэтага неабходны якасна новыя навучальныя дапаможнікі і распрацоўкі, якія ўлічваюць курс на актывізацыю метадычнай падрыхтоўкі курсантаў і слухачоў, а таксама новыя дасягненні ваеннай навукі і практыкі.

Асабліва хацелася б падкрэсліць неабходнасць удакладнення структуры арганізацыі навучальнага працэсу з курсантамі. А гэта, на нашу думку, можа істотна паўплываць на якасць практычнай падрыхтоўкі і скараціць працягласць перыяду адаптацыі маладога афіцэра да службы ў войску.

Перш за ўсё, гэта пераразмеркаванне навучальных дысцыплін з мэтай змяншэння іх колькасці ў семестры. Вывучэнне агульнаваенных і агульнанавуковых дысцыплін неабходна праводзіць на першым і другім курсах навучання, а вузкай спецыялізацыі (з мэтай падрыхтоўкі да выканання канкрэтных абавязкаў) — пераважна на выпускным. Гэтаму павінна папярэднічаць папярэдняе размеркаванне курсантаў па заяўках з войск з наступнай вайсковай стажыроўкай у месцах праходжання будучай службы.

Такі вопыт быў паспяхова апрабаваны на факультэце ўнутраных войск і паказаў сваю высокую эфектыўнасць у забеспячэнні хутчэйшага станаўлення курсанта як афіцэра, як прафесійнага вайскоўца.

Трэба адзначыць, што ў рамках існуючай сістэмы падрыхтоўкі афіцэрскіх кадраў узмацненне практычнай накіраванасці навучання ажыццяўляецца ва ўрон патрабаванням да шырокапрофільнасці дыпламаваных спецыялістаў і да фундаментальнасці іх тэарэтычнай падрыхтоўкі. А гэта з'яўляецца асновай акадэмічнай (вышэйшай) адукацыі.

***— А ці патрабуе радыкальных змен сама сістэма падрыхтоўкі афіцэрскіх кадраў?***

— Вопыт работы акадэміі паказаў, што аб'яднанне рознапрофільных ВНУ на першым этапе рэфармавання ваеннай школы Беларусі з аўтаматычным пераносам прынцыпаў і метадаў навучання, характэрных для аднапрофільных, з'явілася прычынай, якая парадзіла супярэчнасці паміж формай і зместам сістэмы падрыхтоўкі афіцэраў. Мы хочам мець аднachасова спецыяліста і ўсебакова адукаванага афіцэра з кваліфікацыяй — інжынер. Задача павышэння ўменняў і практычных навыкаў выпускаемых з акадэміі афіцэраў не можа быць вырашана без структурнага пераўтварэння сістэмы іх падрыхтоўкі, распрацоўкі і ўкаранення якасна новых навучальных праграм ваенна-прафесіянальнага выхавання.

***— Такім чынам, ці магчыма ўвядзенне ў акадэміі побач з вышэйшай і іншых узроўняў адукацыі (сярэдняй ваенна-спецыяльнай адукацыі і магістратуры)?***

— Так. На сённяшні дзень неабходнасць у гэтым дакладна абазначылася.

Гэта пацвярджае сусветная практыка — напрыклад, у арміях ЗША, Англіі, Германіі, Францыі. Такім чынам, магчыма ўвядзенне ў акадэміі побач з вышэйшай сярэдняй ваенна-спецыяльнай адукацыі і магістратуры. У гэтым выпадку сістэма падрыхтоўкі афіцэрскіх кадраў істотна зменіцца.

Як варыянт можна разглядаць наступную структуру. На працягу двух гадоў навучанне курсантаў ажыццяўляць па адзіных навучальных планах і навучальных праграмах (з некаторым адрозненнем — да 20 працэнтаў па прафесіянальнай падрыхтоўцы). Затым пасля атэстацыі пераразмяркоўваць іх па ўзроўнях адукацыі і спецыялізацыях з улікам асабістых якасцей і схільнасцей. Больш здольныя будуць накіроўвацца на навучанне па праграмах вышэйшай адукацыі (2-3) гады, а тыя, хто не здольны альбо не жадае засвоіць гэту праграму падрыхтоўкі, будуць працягваць вывучэнне вузкай спецыяльнасці на працягу аднаго года па праграме сярэдняга вучылішча. Пасля выпуску яны атрымаюць дыплом аб сярэдняй ваенна-спецыяльнай адукацыі з прысваеннем воінскага звання "лейтэнант" і накіраванне для праходжання службы на пярвічных афіцэрскіх пасадах.

Такая мадэль сістэмы падрыхтоўкі афіцэраў забяспечыць змяншэнне кошту і павышэнне эфектыўнасці акадэміі за кошт выкарыстання дадатковага ўзроўню адукацыі з мэтай падрыхтоўкі большай часткі вузкапрофільных спецыялістаў і скарачэння колькасці адлічэнняў на пазнейшых курсах навучання. Укараненне абавязковай атэстацыі надасць працэсу навучання спаборны характар. А гэта значна павысіць зацікаўленасць у вучобе і ў далейшай перспектыве курсантаў.

Вядома, сёння мы не можам гаварыць аб неадкладных і істотных пераўтварэннях у арганізацыі навучальнага працэсу. Бо для паспяховага існавання сістэмы адукацыі неабходны "здаровы кансерватызм". Але ў неабходнасці паступовых крокаў па шляху далейшага ўдасканалення сістэмы падрыхтоўкі афіцэрскіх кадраў мы пераканaны. І гэта павінна стаць адным са звенняў усёй сістэмы рэфармавання Узброеных Сіл.

**Леанід ПРЫШЧЭПА.**

